Цана асобнага нумару 20 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 21. Вільня, Нядзеля 18 Ліпня 1926 г. Год II.

# Сялянская Ніва

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Вільня, Полацкая вул. 4. — (Wilno, ulica Polocka 4).

Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 6 гадзіны апрача сьвята.

Газэта выходзіць раз у тыдзень.

Падпіска на адзін месяц 1 зл., на 3 мес.—2 зл., на 6 мес.—4 зл., на год—8 зл.

Перамена адрэсу 30 гр.

Цана абвестак:
на 1 староныцы 30 грошаў, на 2 і 3 — 25 грошаў і на 4 — 20 грошаў за радок дробнага друку ўваднэй палосцы. Жадаючыя іншых абвестак павінны зьвярнуцца да Адміністрацыі.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## З чаго пачаць?

Палажэньне беларусаў пад Польшчай так цяжкое, што якую-б мы ня ўзялі галіну грамадзкага жыцьця, знайдзем там абсалютны разгром, поўны застой, занік усялякага жыцьця. Праўда, не ўваходзе сюды палітычная, нацыянальная і сацыяльная сьведамасьць беларускіх мас. Гэтыя апошнія галіны, якраз, можа перадусім, дзякуючы таму, што іншыя галіны зашмат пакрыўджаны, вельмі шыбка пайшлі ў гару. Амаль што не ў кожнай вёсцы знойдзіце беларускія газэты, сяляне вельмі добра разьбіраюцца ў палітычным жыцьці свайго краю, за малымі выняткамі, разумеюць хто іх ашуквае, а хто запраўды працуе і імкнецца да направы лёсу сялянства.

Дык нічога дзіўнага, што вастрогі беларусамі перапоўнены.

Затое калі возьмем іншыя галіны грамадзкага жыцьця, то там пабачым жудасныя рэчы. Культурна-прасьветнае жыцьцё выглядае пажарышчам; ня маем сусім пачатковых беларускіх школ; занік выдавецтва: вучыцялі сядзяць бяз хлеба, на ласцы бедных братоў, якія маюць толькі па 1—2 дзес. зямлі. Даўнейшыя чыноўнікі звольнены са службы і ня маюць ніякай працы; беларускія інваліды не атрымоўваюць належнай ім рэнты, бо „запазьніліся“ зарэгістравацца. Беларускі інтэлігент, ня можа працаваць ня толькі ў казённых установах, але і ў сваей воласьці, дзе маюць сабе хлеб паны, шляхцюкі, палянкі, часамі і іншыя, а толькі ня беларусы.

Селянін абяцанай зямлі не атрымаў, гаспадаркі пасьля вайны не адбудаваў, а тут на табе яшчэ падаткі: панствовы, грунтовы, маёнтковы, валасны, соймікавы, дарожны, на стойку, ад дамовай жывёлы, ды яшчэ стра хоўку.

Аб дзяржаўных пазыках для сялян беларусаў няма што і гаварыць, мала таго, што сяляне не атрымалі ні пядзі зямлі, абшарнікі змогуць яшчэ нераз прагнаць іх з супольнага паствішча, ды пацадзь на іх у суд, які яшчэ аштрафуе сялян.

Словам, дзе ня кінь—усюды клін.

Як ні многа маем гэтых кліноў, ня трэба аднак апускаць рук, ня трэба спадзявацца, што станецца нейкі цуд і палажэньне палепшыцца само. Рэч ясная, стыхійныя палітычныя падзеі прыносяць з сабой грунтоўную зьмену ўмоў жыцьця, але толькі на гэта чакаць і нечага спадзевацца, было-б сусім не рацыянальным. Трэба ўзяцца за арганізаваную, мазольную і цяжкую працу, каб дружнымі сіламі памагчы сабе ў бядзе, каб на'т перамагчы яе. На гэты раз маю на ўвазе толькі поўную часьць гаспадарчай галіны грамадзкага жыцьця, якой зьяўляецца коопэрацыя. Слова коопэратыва беларускаму сялянству ўжо добра вядома, але асьмелюся думаць, што з гэтым словам ня ўсе яшчэ зьвязываюць сапраўднае значэньне яго. Смутнай памяці „коопэратывы“, якія ўжо дзе-ня-дзе істнавалі якраз можа адстрашалі ад сябе грамадзянства і ў канцы-канцоў павінны былі зьліквідавацца, або проста стацца звычайнай гандлёвай крамай яе кіраўніка.

Коопэрацыя азначае супольнае дзеяньне, супольную працу ўсіх зсябраваных і падзел між імі атрыманага даходу. У цяперашнім капіталістычным ладзе ўся гаспадарка апіраецца на капітале, капітал мае рашучаю перавагу над працай, камандуе ёй, вызначае работнікам заработную плату і сам забірае сабе тавар вытвараны працай работнікаў. Коопэрацыя-ж мае на мэце зьменшыць значэньне капіталу ў грамадзка-гаспадарчым жыцьці на карысьць працы, каб праца мела рашучае значэньне ў вытворчасьці, каб вытвараны тавар не належыў да капіталу, а да працы.

Калі йдзе аб абарот вытвараных ужо тавараў, або аб іх дарогу ад фабрыканта да спажыўца, то спажывецкія коопэратывы якраз маюць на мэце скараціць гэту дарогу, іншымі славамі—зьменшыць лік пасраднікаў (гандляроў), каб тавар мог проста з фабрыкі паступаць у коопэратыву і адтуль да спажыўца. Скарачэньне гэтай дарогі зьменшыць кошты, а тым самым дасьць спажыўцу тавар па ніжэйшай цане.

Першыя спажывецкія коопэратывы былі заложаны работніцкімі арганізацыямі. У працягу другой паловы прошлага веку коопэратывы ня толькі далі работніцкай клясе магчымасьць танней і лепш аджыўляцца, праз скасаваньне пасрэднікаў, вызыску і ашуканства прадаўцоў, але прадусім пазволілі работнікам узяць вырашэньне работніцкага пытаньня ў іх уласныя рукі, без аглядак на дзяржаву, на патронаты і распачалі новы гаспадарчы лад, дзе перадусім бяруцца пад увагу заслугі працы, а не капіталу.

Прыбыткі, якія пры агульнай вытворчасьці йдуць на карысьць капіталістага і ўмацоўваюць сёнешні лад—коопэратыва абярнула на загаіваньне ран заданых капіталізмам. Дзякуючы коопэратыве, работнікі ў заходніх дзяржавах (Бэльгіі, Англіі і інш.) маюць свае ўласныя валікія магазыны, пякарні, малакарні, аптэкі і інш., стварылі свае ўласныя школы, бібліятэкі, чытальні дзе пасьля працы чакаець іх прыемная разрыўка і адначасна навука. З направай матэр'яльнага палажэньня работніцкай клясы, пайшло ўсьведамленьне палітычнае; работнікі маюць сваіх прадстаўнікоў у парлямэнце, а затым могуць мець да поўнай меры ўплыў на заканадаўства.

Як відзім, коопэратыва адыгрывае аграмадную роль у жыцьці работніцкай клясы, трэба каб яна прыйшла і сялянам на помач. Усё што купляе селянін для сваей гаспадаркі і для безпасрэдняга спажыцьця, усё што селянін прадае, як тавары сваей працы павінны праходзіць праз сялянскія коопэратывы. У кожнай большай вёсцы і ў кожным мястэчку павінны закладацца пакуль што спажывецкія коопэратывы, якія з часам могуць стварыць адпаведны грунт і для вытворчых коопэратываў. Дык маючы на мэце палітычнае культурнае і сацыяльнае вызваленьне, пачынаем ад грамадзкай працы на гаспадарчым грунце, на грунце, які ў нашых умовах жыцьця можа найболып карысныя даць вынікі.

*Адам Бельдзюкевіч.*

## Манаполь на Беларусь.

Ня было ў Польшчы нікога, хто з майскім пераваротам ня меў-бы надзеі, што польская палітыка пойдзе пановаму. Мела гэту надзею і беларуская вёска і яе прадстаўнікі—паслы Сойму. Як вядома, Пілсудскі ваяваў з Вітаса-Вайцехоўскага правіцаю, за Пілсудскім ішлі ўсе левыя польскія партыі. Ня трудна было надзеяцца, што раз левыя партыі стаяць на старане тварца перэвароту, то ў будучым урадзе яны будуць мець вагу. І вось перад выбарамі прэзыдэнта польскія левыя партыі П. П. С., Партыя Працы зьвярнуліся да беларускіх паслоў, каб разам выбіраць прэзыдэнта. Тагды ад Беларускага Сялянскага Саюзу было пастаўлена левым партыям такое дамаганьне: як нам будзе дана родная школа, зямля бяз выкупу, амністыя вязьням і г. д., тагды мы будзем галасаваць на прэзыдэнта разам з вамі. Аднак-жа скора ўвесь сэнс «перэвароту» быў раскушаны меншасьцямі і ў часе выбараў прэзыдэнта ўсе беларускія і ўкраінскія паслы ў галасаваньні ўчасьця ня прымалі.

Усё гэта так і нічога тут дзіўнага няма. Аднак «Нар. Справа» (чытай Грамада) злосна накінулася на пас. Рагулю і Ярэміча, чаму гэта яны «фліртавалі» з польскаю лявіцаю. Падрабязна разьбіраць стацьцю «Недастойны флірт» (Нар. Спр. № 1), стацьцю поўную злосьці і двумысных сказаў мы ня будзем, скажам толькі, што сэнс гэнае стацьці выходзіць такі: чаму гэта *Беларускі Сялянскі Саюз* дамагаўся ад польскай лявіцы роднай школы, зямлі і г. д. у той час як Грамада гэтага не рабіла? Якое права маець Сялянскі Саюз трэбаваць чаго ад палякоў, калі на гэта... мае манаполь Беларуская Грамада? Нічым іншым нельга вытлумачыць гэтага наскоку, гэтае нялюдзкае зайздрасьці і вечнага калупаньня ў кожным слове «Сялянскай Нівы». Чамусьці «Народная Справа» ўзяла на сябе абавязак няўсыпна сачыць за кожным крокам сялянскіх паслоў і іх газэты. Грамада хоча, каб толькі яна адна была апякуном над беларускім народам і ніхто другі ў гэту справу ня ўмешываўся. Відаць горшай бяды Грамадзе ня было-б, каб Сялянскі Саюз «выфліртаваў», напр. родную школу!

Вось дзеля чаго, паўтараю, «Народная Справа» чапляецца да кожнага слова «Сялянскай Нівы» і на кожным кроку *стараецца*

адмаляваў палажэньне ўсіх трох народаў у сучасны мам-нт і падкрэсьліў, што толькі злучанымі сіламі, супольным фронтам змогуць здабыць забе лепшую долю. Дадаў яшчэ Мішуга, што як толькі зрадзілася думка заснаваць супольны Камітэт зложаны з прадстаўнікоў усіх трох паняволеных народаў, зараз накінулася на ініцыятараў гэтай справы ўся польская прэ-а ў Амэрыцэ. „Баяліся нас — казаў д-р Мішуга — ўжо тагды, як мы сядзелі ціха. А што-б было, як-бы мы ўзяліся да супольнай працы? А гэта мусім зрабіць, мы мусім бараніцца і супольнымі сіламі адбіваць страшныя ўдары". Прамоўца закончыў свой даклад заклікам да ўсіх гуртавацца ў Камітэце Паняволеных Народаў.

Наступным прамаўляў амэрыканец Губэрт Горэль, вялікі прыяцель літоўцаў, які выступаў абаронцам права на самаазначэньне для ўсіх народаў. Прамоўца верыць, што кожны народ хутчэй ці пазьней мусіць здабыць сабе дзяржаўную незалежнасьць. Свабодалюбны амэрыканскі народ будзе заўсёды на старане пакрыўджаных і паняволеных. Ад беларусаў гаварыў Д. Каўнурка, які расказаў пра рожныя жудасныя абразы з цяперашняга беларускага жыцьця. Асабліва цікавы былі тыя абразы, ў якіх прамоўца маляваў паход на беларускую школу і царкву. Па ім выступіў з прамовай кс. С. Драўгеліс (па літоўску), які адмаляваў палажэньне літоўскага народу з аколіц яго сталіцы—Вільні. Прызываў ён да еднасьці і вытрымаласьці ў супольнай барацьбе, каб як найбольш выкарыстаць сымпатыі вольнага амэрыканскага народу.

Апошнім прамоўцам быў Омэльян Рэвюк, які сказаў даўжэйшую прамову ў англійскай мове. Ен зазначыў, што інтэрэс Амэрыкі вымагае, каб у Эўропе ня было паняволеных народаў. Гэта патрэбна і для эканамічных інтэрэсаў Амэрыкі і для мірнага сужыцьця рожных нацыянальных груп сярод амэрыканскай эміграцыі. Дзеля гэтага Амэрыку трэба паінфармаваць аб становішчы паняволеных народаў, асабліва-ж аб становішчы ўкраінцаў, беларусаў і літоўцаў, а тагды яна напэўна адпаведна адгукнецца.

Па скančэньні сваей прамовы О. Рэвюк паставіў рэзалюцыі ў англійскай мове апрацаваныя ў супольным Камітэце. Рэзалюцыі прыняты аднагалосна і на гэтым мітынг закончыўся. Пасьля таго іх разаслалі да амэрыканскіх кангрэсмэнаў і сэнатараў, а так-жа да прадстаўнікоў чужых дзяржаў у Вашынгтоне".

Ува ўсіх справах датычачых арганізацыі
**Беларускага Сялянскага Саюзу**
і запісі ў сябры просім зьвяртацца
па адрэсу:
**m. Wilno, ul. Połocka 4 m. 7.**
**Беларускі Сялянскі Саюз.**

# Годзі нам...

Годзі нам, браты сяляне,
Драмаць вечна у нудзе —
Хай нарэшце кожны ўстане
Даць адпор сваей бядзе.
На каго нам спадзявацца
І хто зможа што нам даць?
Самі мусім мы старацца
Долю лепшую каваць.
Хай-жа кожны ў рады стане —
Трэба й нам свой голас даць,
Бо даволі нам маўчаньня
І ў нядолі ўсё стагнаць.
А з нядоляй каб расстацца,
Каб ня мучыў нас прымус,
Усе мусім запісацца
У Сялянскі наш Саюз.
Па чужых ужо даволі
Розных партыях блудзіць,
Бо няўбачым лепшай долі,
Як далей так будзем жыць.
Дык пакінем мы снавацца,
Як-бы мухі па смале,
У Саюз будзем гуртавацца
У кожным месьце, ды сяле.
Вось тады мець будзем сілу
І нас будуць паважаць.
А свой Край старонку мілу
Дружна зможам ратаваць.
Бо ў Саюзе мы ня зблудзім,
Перастанем гараваць,
Што патрэба—усё здабудзем. —
Дык даволі ў шапку спаць!...

*Ст. Станкевіч.*

# З Радавай Беларусі.

### Беларусізацыя кіно-стужак.

Пачынаюць зьяўляцца кіно-стужкі з надпісамі на дзьвёх мовах — беларускай і расейскай. Даводзілася чуць, як некатарыя гледзячы, кепска ведаючыя беларускую мову, чыталі надпісы пабеларуску, пасьля парасейску і казалі, што ім надпісы дапамагаюць вывучаць беларускую мову. Як бачым, надпісы пабеларуску карысны ня толькі для ведаючых беларускую мову, а і для вывучаючых яе.

Але, на жаль, беларускі тэкст часта бывае так сапсаваны, што нічога не зразумее нават ведаючы мову, а вывучаючы яе, зусім з панталыку саб'ецца.

### Да пытаньня аб беларускай графіцы.

17-го чэрвеня ў Інбелкульце адбыўся даклад праф. Растаргуева на тэму аб беларускай графіцы.

Дакладчык даводзіў неабходнасьць замены дз і дж паасобнымі літарамі, ужываньня літары j, пажаданасьць азначаць мяккасьць зычных не ў напісаньні наступнага знаку галоўнага, а ў нарысе самага знаку зычнага.

Апошні пункт, як менш дакладна апрацаваны, дакладчык лічыць магчымым прызнаць неабавязковым для сучаснага моманту.

Гэткага-ж погляду прытрымліваўся і садакладчык т. Лёсік.

Прафэсар БДУ П. А. Бузук даводзіў, паміж іншым, неабходнасьць увядзеньня лацінкі, хаця, магчыма, і ня ў сучасны момант.

Навуковы працаўнік Л. М. Цьвяткоў пазнаёміў слухачоў са спробамі ўвядзеньня лацінкі ў расейскую графіку (праэкт П. Т. Брандта).

Па думцы т. Байкова, рэформы графікі належыць зьвязаць з рэформай прапісу. Т. Мароз згаджаўся з Бузуком аб неабходнасьці ўвядзеньня лацінкі.

# Беларусы у Чэхаславакії.

### Зацьверджаньне статуту „Аб'яднаньня Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў".

Чэхаславацкім урадам зацьверджаны статут Аб'яднаньня Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў. Паводле законаў рэспублікі гурток робіцца праўна чынным тагды, калі па зацьверджаньні адбудзецца ўстаноўчая зборка, на каторай выбіраецца сталы прэзыдыум. Вось 29 чэрвеня 1926 г. у Праззе адбылася ўстаноўчая зборка прадстаўнікоў студэнскіх арганізацыяў, уваходзячых у Аб'яднаньне Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў. Быў выбраны сталы прэзыдыум, рэвізыйная камісія і міравы суд. Аб'яднаньне Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў ёсьць арганізацыяю апалітычнаю, куртурнаю. Заданьнем яе зьяўляецца аб'яднаньне беларускага студэнства ў Эўропе, Амэрыцы і ўмацаваньне беларускага культурнага самасазнаньня сярод студэнства. У прэзыдыум выбраны: М. Газоўскі—старшыня; віцэ-старшыня—В. Лаўскі; сэкрэтар—Чарнецкі; скарбнік—М. Каберац; сябра—Русак. Рэвізыйная камісія: Талькоўскі, Дварчанін Гіляр, Журэкоў Янка. Міравы Суд: Ільяшэвіч М., Слапеўскі Ігнат, Манастырскі Мікола. *І. Н.*

# З Польшчы.

### Адклад пленарнага паседжаньня.

Паседжаньне Сойму, якое мела адбыцца 15.VII перанесена на пятніцу 16.VII. Прычынай адкладу зьяўляецца паховіны прэзэса Найвышэйшай Кантрольнай Палаты.

У пятніцу 16.VII на парадку дня ў Сойме знойдзецца справа зьмены Канстытуцыі і справаздача бюджэтнай камісіі аб дзейнасьці Найвышэйшай Кантрольнай Палаты.

### Каму ў Польшчы найлепш будзе жыць.

У той час як у нашай суседкі Літвы касуецца кара сьмерці, у „дэмакратычнай" і ў высока „культурнай" Польшчы нядаўна прыняты на дзяржаўную службу кат.

Ня было-б тут вялікага дзіва, каб ня тое, што ад ката ў Польшчы вымагаецца званьне дыплямаванага дохтара мэдыцыны. Дзякуючы гэта-

---

чатку ня знайдзем. Калі мо' дзе ў цяперашней жывой мове і скажуць *скольні*, дык гэта ўплыў мовы маскоўскае. Падобна як у нас, ёсьць і ў іншых славянскіх мовах. У нас некаторыя пішуць *скольні*, але побач *некальні*, а гэта-ж супярэчнасьць, бо другое ўтварылася з першага дададаньнем *не—*.

12. Прыналежнасьць выказуем у беларускай мове прыналежнымі прыметамі на —оў (—аў, еў, ін. а ня родным склонам адзіночнага ліку пазоўнага імя. Дык трэба сказаці: з думкамі Сьцяпанавымі, пагляд Сцяпаноў, а не—з думкамі Сьцяпана, пагляд Сьцяпана і г. д.

13. Выразы ўзаемнасьці ў беларускай мове абазначаюцца лічбаю „адзін". Гэтак замест таго, каб сказаці: адны другім, адна другой, адно перад адным і г. д.; трэба сказаці — адны адным, адна аднэй, адно перад адным і г. д.

14. Ня можна казаці: успамінаў ён пакінуты дом і ўціснаных *праз* жандароў старых бацькоў. Тут трэба сказаці: ......ўціснаных жандарамі старых бацькоў.

Праведзеныя абмылы ёсьць не ў адным „Крывічу", але і ў іншых выданьнях.

З асобных словаў вылічу толькі некаторыя:

*адзінства* ўтворана па способу маск. *единство*; у „Айкітабе" знаходзім тысяча разоў *адзіноства*;

*акрэсьленае, акрэсьленьне* —полёнізм, пабелар.—азначанае, азначэньне;

*ачавіста, ачавісты*—полёнізм, пабел.—відавочна, відавочны;

*ачавідзец*—маскаліз; пабеларуску—вочнік, як ё ў слоўніку Насовічавым;

*відочны* факт, *відочна* таксама палёнізм; пабеларуску—відавочна;

*валнавацъ*. За гэтакія словы, як гэта, сп. В. Л. будуць доўга ўспамінаць благім словам. У вадным із першых № № „Крывіча" В. Л. прыводзіў на гэта слова прыклад з народных песьняў. Жадныя песьні нічагусенькі ў гэтым прыпадку памагчы нямогуць. *Л* паказуе на яго не беларускі характар, а *е* (а не *н*) за ім на перакручаньне. Праславянскае *вълна* дало ў белар. мове *воўна* як прасл. *вълкъ—воўк*. *пълнъ—поўны* і г. п., але *воўна* ў нас стала ўжывацца толькі ў значэньню *воўны* авечай і г. п. Дзеля таго, што нікому мусіць ня прыдзе ў дум называці *воўнай* ваду, дык маем казаць, хоць перанятае, але цяпер агульна ўжыванае *хваля, хвалявацъ*. Маск. *валнавацъ* было Беларусам дзікім, дык і зьмена на *валнавацъ*, але ад гэтага зусім не палепшала;

*гаражанка*—маск.; пабел.—мяшчанка;

*дапасаваньне*—пол.; пабел.—прытарнаваньне;

*зьнешні*. За гэтае слова спадар рэдактар „Крывіча" заслужуе вялікага караньня. Здаецца, у якімсь абмежаным кутку скажуць маскалізм *зьне* з *извне* і вось ад гэтага маск. сп. В. Л. выводзіць новы маскалізм;

*зьнешні*. Чыста беларускія словы ёсьць: вонках (=маск. вне), вонкавы (=м. внешний), звонку (=м. извне);

*вьезд*. Каліс сп. В. Л. утварыў слова „сувязь" дзеля абазначэньня пайма (паняцьця) выражанага словам „саюз". Утворанае аднак „сувязь" прынялося ў іншым значэньню—маск. *связь* і тут яно зусім на месцу. З другога боку, слова „саюз" гучыць даволі тыкі не пабеларуску. Рэч у тым, што нямаш жаднага прыпадку, каб у нашай мове *в* у *св* прасл. не перад заніклым *ъ*, *ь* давала *о* (а з туль *а*). Дык адкінуць „саюз" няшкодзіла-б, але замяніць яго прышлося-б не *сувязей*, а імям мускім—*сувязь* або *зьвяз*, як гэта ёсьць у шмат якіх мовах славянскіх Дзеля таго, што маем ужо *сувязь*, дык ляпей было-б прыняці *зьвяз*. *Кабета* ё пол., у гэтым значэньню маем беларускія словы *жонка* і *жанчына*. Гэтае ўжываецца толькі ў адным значэньню (=маск. женщина), а гэнае (першае) ў значэньнях двух—жонкі наагул і жонкі чыейсь (жаны). У вабодвых значэньнях у множным ліку будзе *жанкі, жанок*, а ў адзіночным *жонка, жонкі* і г. д., а тымчасам ў „Кр." знаходзім „палажэньне *жанкі*".

*Немана*, а трэба *Нёмна*.

*Спаборнік*. Слова відаць няўдала творанае. Маем жывыя добрыя словы гэткія: супар, супарка, супарства (=маск. соперник, —ица, соперничество, гл. у слоўніку Насовічавым).

*Усходны*. Гэтае слова заўсёды ўжываецца зь мяккім канчаткам (усходні). Дзіўна, чаму рэд. „Крывіча" ўжывае яго з канчаткам цьвярдым.

Але до аб мове.

„Крывіч" прыбраны харошымі застаўкамі із старае беларускае друкарні Сьвята-Троіцкага манастыра ў Вільні і двума абразкамі—бітвы Беларусоў і Ліцьвіноў із Крыжакамі пад Грунвальдам 1410 г. і паражкі Беларусамі Маскалёў пад Воршай 1514 г. З вонкавага боку часопісь так сама нішто выглядае.

Як можна было відзець, у „Крывічу" побач із добрым ё й заганы. Неяк так лучыла, што ў гэтым № заганаў шмат болей, як у №№ іншых. „Крывіч" ёсьць зьявай вельмі дадатнай і карыснай. Шкода, што ён рэдка выходзіць і мала можа пашырацца.

му ўспоняны кат будзе браць пэнсыю менш-больш як ваявода. Калі яшчэ ўзяць пад увагу даход „паштучны“, усялякія дыеты, раз'езды ды курс ураду „сільнай рукі“, то акажэцца, што кат у Польшчы заробіць больш ад міністра.

# З заграніцы.

### Таварыства для амністыі ў Польшчы.

Карэспандэнт „Kurj. Poran.“ паведамляе, што ў Парыжы ўтварылася таварыства для амністыі ў Польшчы, якое выпусьціла адозву вельмі некарыснага для Польшчы зьместу. Падпісаўшыя яе французы навязуюць лучнасьць з падобнай адозвай з 1924 г. напісанай француcкімі вучонымі і ўказываючы на тэрар у адносінах да народных меншасьцяў і на перапаўненьне польскіх турмаў —дамагаюцца вязьням амністыі.

### Скасаваньне кары сьмерці ў Літве.

На апошнім паседжаньні ковенскага Сойму, большасьцяй галасоў урадавых партыяў скасавана кара сьмерці ў межах Літоўскай Рэспублікі.

### Цывільныя шлюбы ў Літве.

Літоўскі ўрад загатаваў праект уставы, уводзячай цывільныя шлюбы.

### Радавае золата на ангельскую забастоўку.

Паводле „Kurj. Poran.“ у Лёндын прыйшла апошняя перасылка ў суме 400 тыс. руб. золатам для забаставаўшых ангельскіх вуглякопаў.

### Рэвалюцыя ў Альбаніі.

Як паведамляюць з Рыму, рада міністраў пастанавіла выслаць 3 ваенныя параходы ў Альбанію, дзе ўзнялася рэвалюцыя. Урад Ахмэда Зогу вывяў урадовыя войскі з небяспечных мясцоў. У Валёне і Дураццо аб'яўлена асаднае палажэньне.

# Зьдзекі над праваслаўнымі.

На Антокальскім вайсковым магільніку знаходзіцца праваслаўная царква - памятнік над магіламі радні інжын. Быкоўскага. Царква збудавана на яго ўласны кошт. Пасьля эвакуацыі праваслаўныя жыхары Антокаля сталі старацца перад праваслаўнай духоўнай уладай, каб аткрыць гэту царкву для набажэнстваў у нядзелі і сьвяты, бо найбліжэйшая царква паложана ў 3—4 вярсты ад Антокаля. У 1923 годзе Віленскі ваявода п. Роман даў дазвол праваслаўнай кансысторыі аткрыць гэту царкву, дзе быў пасланы благачынны Беляеў з дэлегацыяй антокальцаў. Апроч таго, па загаду таго-ж ваяводы, прысланы быў адрад паліцыі, але калі прышлі да царквы і благачынны папрасіў у стоража Станкевіча ключы ад царквы, то апошні па загаду вайсковага ксяндза замест ключоў прывёў жандармаў, якія з аружжам у руках прагналі ад царквы ўсю дэлегацыю разам з паліцыяй. Пасьля гэтага выпадку доўгі час стаяла каля царквы ваенная варта.

На скутак скаргі праваслаўнай духоўнай улады ваяводзе на жорсткі паступак ксяндза, п. ваявода абяцаў хлапатаць перад міністэрствам спраў рэлігійных, але абяцанка так абяцанкай і засталася.

Пры перагаворах з ксяндзом, чаму не аддае царквы, апошні адказаў, што гэта царква ўласнасьць Быкоўскіх і нікаму іншаму яе ня дасьць.

У чэрвені 1925 г. праваслаўныя антокальцы зьвярнуліся да мітрапаліта Дзіяніса і прасілі якнайхутчэй аткрыць царкву. Калі мітрапаліт прыехаў паглядзець царквы, то стораж і яму не адчыніў царквы, кажучы што ён ключоў ня мае. У працягу года мітр. Дзіяніс так нічога і не зрабіў у гэтым кірунку, ня гледзячы на тое, што ў кастрычніку 1925 г. да яго яшчэ раз зьвярталіся ў гэтай справе, якую, відаць, мітрапаліт лічыць для сябе за дробную, або пабаяўся зьвярнуцца да быўшага міністра С. Грабскага, у каторага мог згубіць ласку і не дастаць отпуску заграніцу.

У палове траўня г. г. зьявіўся і «запраўдны насьледнік» інж. Быкоўскага — уніяцкі ксёндз Кулік-Наўменко, якога ў «правах насьледства» зацьвердзіў вайсковы ксёндз Сопоцько. Дадзены Куліку ключы ад царквы і адпраўляе ён там абедні а 7-ай гадзіне раніцы. Відаць Кулік хоча перавярнуць праваслаўных нябошчыкаў на ўніятаў, бо з жывых людзей ніхто на яго службу ня ходзіць. Кулік пайшоў далей: калі яму не ўдалося ні жывых ні нябошчыкаў угаварыць, то ён стаў вывазіць царкоўную маемасьць у места—чаго толькі і трэба было. «Зацьверджаньне» Сопоцькі, пэўна, вельмі моцнае, бо на просьбу віленскага архірэя Хвядоса ваявода хоць абяцаў гэту царкву апячатаць, але да гэтага часу нічога ня зроблена і Кулік астаецца на мейсцы, каб далей сеяць нязгоду між праваслаўнымі і каталікамі.

Трэба спадзявацца, што за гэту справу возьміцца праваслаўная кансысторыя, якая зьяўляецца гаспадаром і царквы і яе маемасьці, ды пацягне да судовай адказнасьці самазваннага «насьледніка».

Пара скончыць з бязпраўем!

13.VI.26. *Праваслаўны.*

# Як аткрываць гурткі Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

Згодна са статутам Інстытуту гурток паўстае ў кожнай меснасьці, дзе знойдзецца хоць 3 асобы, як запраўдныя сябры, жадаючыя заснаваць гурток і калі ўрад аддзелу згодзіцца на гэта. Такім чынам, калі ў якой-небудзь вёсцы 3 асобы будуць жадаць працаваць у рамках статуту Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, павінны яны падаць у Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры заяву з просьбай адчыніць у іх вёсцы гурток Інстытуту. У заяве павінны быць паданы кандыдаты на старшыню, скарбніка і сэкрэтара гуртка, а таксама адрэс кватэры гуртка.

Такая заява можа быць наступнага зьместу:

У Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры, Аддзел у Вільні,
Завальная 7—8.

Ніжэй падпісаныя, жадаючы працаваць на аснове статуту Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, просім аткрыць гурток Інстытуту ў вёсцы . . . . . воласьці . . . . павету.

Як кандыдатаў у часовы ўрад гуртка выстаўляем: 1) старшыня гр. . . . . .
2) скарбнік гр. . . . . .
3) сэкрэтар гр. . . . . .

Гурток будзе мясьціцца ў доме . . . . . . (падаць прозьвішча і імя гаспадара, у якога доме будзе гурток).

Дня . . . . . 1926 г. (Подпісы 3-х асоб
вёска . . . . . . . кандыдатаў у часовы ўрад)
пошта . . . . . .

# ХРОНІКА.

— **Коопэратыўна-Гандлёвыя курсы.** Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры аткрывае коопэратыўна-гандлёвыя курсы ў м. Вільні. Курсы маюць на мэце прыгатаваць практычных кіраўнікоў коопэратываў, або прыватных крам.

На курсах будуць выкладацца такія прадметы: 1) Асновы эканомікі, 2) Асновы коопэрацыі, 3) Навука аб гандлі, 4) Бугальтэрыя, 5) Беларуская гандлёвая карэспандэнцыя, 6) Польская гандлёвая карэспандэнцыя, 7) Тавараэнаўства і 8) Арганізацыя коопэратываў.

Пачатак курсаў 1-га верасьня, канец 1-га кастрычніка г.г. Аплата за курс 20 зл., прычым 10% усіх слухачоў будзе звольнена ад аплаты, 20% слухачоў будзе звольнена на 50% платы. Часьць курсантаў будзе мець бязплатны інтэрнат.

Пры прыёме на курсы пяршэнства маюць безработныя вучыцялі ня з поўнай кваліфікацыяй і асобы маючыя 4-х клясавую асьвету; пажадана каб слухачы паходзілі з большых вёсак, або мястэчак.

Заявы з паштовымі значкамі на адказ, прыймаюцца да 15-га жніўня г. г. у Беларускім Інстытуце Гаспадаркі і Культуры: m. Wilno, Zawalna 7.

— **У Віленскай Беларускай Гімназіі.** Куратория Віленскага Школьнага Округу зацьвердзіла п. А. Трэпку на мейсца цяпер атказаўшагася дырэктара гімназіі п. Р. Астроўскага. Новы дырэктар п. А. Трэпка займаў у 1923 годзе у Віл. Бел. Гімназіі гэта-ж самае становішча.

— **Новая беларуская кніжка.** У пачатку бягучага месяца вышла з друку і прадаецца ў ва-ўсіх беларускіх кнігарнях падручнік Сьвяшчэннай Гісторыі Старага Завету, прадзначаны для беларускіх пачаткавых школаў і малодшых клясаў гімназіяў і ўложаны кандыд. багаслоўя Сяргеям Паўловічам, які зьяўляецца і выдаўцам. Кніжка мае 160 старонак, у тэксьце спатыкаюцца малюнкі і географічныя карты.

Вітаючы гэты вынік працы п. Паўловіча, нам прыемна зазначыць, што аўтар яшчэ рыхтуе да друку Сьвяшчэную Гісторыю Новага Завету.

— **Зацьверджаньне канфіскацыі.** Акружны Суд у Вільні на сэсіі 13 ліпня зацьвердзіў канфіскацыю апошняга нумару „Беларускай Справы“, якая была сканфіскавана праз Камісара Ураду на падставе 126 арт. К. К.

— **Яшчэ падаражэе.** Міністэрства чыгунак апрацоўвывае новы чыгуначны тарыф, паводле якога цана білетаў за праезд цягніком мае быць павышана на 25 прац. Калі новы тарыф будзе зацьверджаны, праезд падаражэе ад 1-га жніўня.

— **Перамена адрасу.** Рэдакцыя і Адміністрацыя часопісі „Маланка“ ад 10 ліпня г. г. перанеслася з Віленскай вул. № 12 на Гэтманскую вул. № 4, куды належыць адрэсаваць карэспандэнцыю і зварачвацца асабіста.

— **З каго складаюцца нашы фашысты.** Усе памятаюць добра ганебны напад на маніфэстацыю рабочых 1-га мая. Вось-жа адным з гэрштаў студэнцкай чарнасоценнай баёўкі быў нейкі Сіла-Навіцкі, які лічыць сябе за фашыста. Нядаўна давялося гэтаму пану сесьці на лаву абвінавачаных у Віленскім Акружным Судзе за... звычайнае зладзейства.

Суд засудзіў „ідэйнага“ правадыра панскіх сынкоў на Віленскім Унівэрсытэце на 6 месяцаў турмы. Кара паменшана на падставе амністыі.

Нашы фашысты сваей гадоўлі гэтак нядаўна нарадзіліся і ўжо ім патрэбна „маральнае адраджэньне“. А што-ж будзе далей?

— **Ясьне-паны арганізуюцца.** На днях група т. зв. жубраў, ці выразьней кажучы, багатых абшарнікаў нашага краю, ўтварылі сваю манархістычна-кансэрватыўную арганізацыю, якая чамусьці лічыць патрэбным засьцярагчыся, што гэта ня партыя, а проста арганізацыя.

Калі немагчыма заманіць людзей сваімі моцна заплясьнелымі палітычнымі ідэаламі, пробуюць вось людзі найсьці сабе аднацумцаў няшчыра прыкрываючыся модным ужо сьцягам безпартыйнасьці.

— **Спраставаньне.** Аказалася, што верш: „Песьня батрака“, зьмешчаны ў № 20 „Сял. Н.“ зьяўляецца вершам Я. Купалы. *Б—і* ўважаў гэты верш за свой, відаць, толькі затым, што зьмяніў яго крыху.

— **Курс на грошы.** У Варшаве афіцыяльны курс на 16.VII. лічыўся 9 зл. 17 гр. за даляр. Рублі золатам—4.85, сярабром—3.25.

На чорнай гелдзе ў Вільні 16-га ліпня плацілі за даляр 9 зл. 30 гр.

## Сяляне! Чытайце сваю газэту „Сялянскую Ніву“.

# АБВЕСТКА.

**Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры** патрабуе кандыдата на Дырэктара Беларускай Вучыцельскай Сэмінарыі у Вільні.

Заявы з жыцярысам просім прысылаць у **Віленскі Аддзел Інстытуту: Завальная 7.**

# КОНКУРС

## на беларускую песьню-гімн „Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры“.

Т-ва Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры гэтым обвяшчае **КОНКУРС** на прыгожы верш і музыкальны матыў песьні, якая мае быць **гімнам Інстытуту.**

Зьмест гімну павінен выражаць мэты Інстытуту (Глядзі № 19 „Сял. Нівы“), дух і псыхалёгію беларускага народу, а музыка мусіць быць блізкай беларускім народным матывам, прычым можна прысылаць ня толькі разам верш з музыкай, але і паасобку.

**Інстытут устанавіў дзьве нагроды: 1-шая—100 зл. 2-гая 50 зл.**

Творы трэба прысылаць бяз прозьвішча аўтора, толькі пад псэўданімам (праўдзівае прозьвішча падаць у заклеяным канвэрце).

Творы можна прысылаць у часе да 1-га кастрычніка г. г. па адрэсу: m. Wilno, ul. Zawalna 7 для **Інстытуту.**

г. Вільня, дня 3—VII—1926 г.

*Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры*

Рэдактар і выдавец **Ст. Вольскі.** **Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны—Вільня, Людвісарская 1.**